№65 (1878)
Аўторак, 13 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, сонечна, уначы — -4...-2, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +10...+12, сонечна, уначы — 0...+2, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +6...+8, сонечна, уначы — -2...0, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +4...+6, уначы — -3...-1, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +9...+11, сонечна, уначы — -1...+1, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +6...+8, сонечна, уначы — -5...-3, без ападкаў.

*www.meteo.by*





**ПУЛЬС**

## Чатыры залатыя медалі «Спартака"

Чатыры залатыя медалі заваявала прадукцыя гомельскай кандытарскай фабрыкі "Спартак" на Усерасійскім спецыялізаваным форуме "Свет гандлю і ўпакоўкі — 2004". Узнагарод удастоены наборы шакаладных цукерак "Страла", "Спартак", "Дуэт" і серыя порыстага шакаладу. Пра гэта паведаміла прэс-служба беларускага пасольства ў Маскве.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Фестываль музыкі "Мінская вясна"

16—30 красавіка пройдзе XX міжнародны фестываль музыкі "Мінская вясна", прысвечаны 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрый Гільдзюк.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## «Адпачынак-2004»

Нацыянальны выставачны цэнтр "Белэкспа" і Міністэрства спорту і турызму Беларусі завяршаюць падрыхтоўку да правядзення 7-га кірмашу турыстычных паслуг "Адпачынак-2004". Ён пройдзе 15—18 красавіка ў выставачным павільёне НВЦ "Белэкспа" па вуліцы Я.Купалы, 27.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**



*Пачаліся работы па рэканструкцыі Кургана Славы.*

**photo.bymedia.net**

## Зборная Беларусі перамагае ў Нарвегіі

Паралельна з юнацкім чэмпіянатам свету па хакею, які праходзіць у Мінску, стартаваў чэмпіянат свету ў дывізіёне 1, дзе ўдзельнічае нацыянальная зборная краіны. Гэты чэмпіянат праходзіць у Осла.

Сапернікамі зборнай Беларусі за права вярнуцца ў эліту сусветнага хакея змагаюцца зборныя Бельгіі, Нарвегіі, Вялікабрытаніі, Галандыі і Венгрыі.

Свой першы матч беларусы гулялі супраць зборнай Бельгіі і перамаглі з лікам 10:0. Тры шайбы закінуў Андрэй Скабелка.

**Зміцер ДРАПАЧКА.**

## Чорныя маскі ўварваліся ў дом

У ноч на 11 красавіка трое невядомых зрабілі спробу абрабаваць дом 78-гадовага пенсіянера, жыхара вёскі Альшаны Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

Злачынцы ва ўзросце 18—20 гадоў у чорных масках выбілі дзверы і ўварваліся ў дом. Адзін з іх стрэліў з газашротавага пісталета ў твар гаспадару, патрабуючы грошы. 70-гадовая гаспадыня не разгубілася, скочыла цераз акно на вуліцу і стала клікаць на дапамогу. Гэта напалохала злачынцаў, і яны ўцяклі.

Пацярпелы гаспадар з траўмай левага вока змешчаны ў пінскую бальніцу. Па факце нападу заведзена крымінальная справа.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Курсы замежных валют

*На 13 красавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют да беларускага рубля:*

*1 долар ЗША — 2.152*
*1 еўра — 2.599,72*
*1 расійскі рубель — 75,37*
*1 украінская грыўна — 403,74*
*1 аўстралійскі долар — 1.647,36*
*1 балгарскі леў — 1.335,86*
*1 дацкая крона — 348,86*
*1 СДР — 3.159,76*
*1 ісландская крона — 29,74*
*10 японскіх іен — 202,63*
*1 казахскі тэнге — 15,62*
*1 канадскі долар — 1.622,01*
*1 кувейцкі дынар — 7.300,11*
*1 кіргізскі сом — 49,66*
*1 латвійскі лат — 3.993,32*
*1 літоўскі літ — 753,01*
*1 малдаўскі лей — 183,70*
*1 нарвежская крона — 309,93*
*1 польскі злоты — 550,61*
*1 сінгапурскі долар — 1.289,16*
*10.000 турэцкіх лір — 15,91*
*1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3.945,91*
*1 чэшская крона — 80,20*
*1 шведская крона — 283,77*
*1 швейцарскі франк — 1.675,75*
*1 эстонская крона — 166,14*

## Галіну Навумчык не пусцілі на пахаванне бацькі

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ**

Адміністрацыя, якая зараз кіруе нашай краінай, чарговы раз засведчыла ўласны гуманізм. Улады праігнаравалі зварот з просьбай выдаць пашпарт Галіне Навумчык, каб яна паспела на пахаванне бацькі.

Галіна выехала за межы Беларусі ў 1996 годзе пасля таго, як ейны муж Сяргей Навумчык атрымаў палітычны прытулак у ЗША. Праз колькі часу муж і жонка перабраліся ў Прагу. Яны прынцыпова захоўваюць беларускае грамадзянства, аднак беларускія пашпарты Навумчыкаў даўно пратэрмінаваныя.

Калі ў пачатку сакавіка раптоўна памёр бацька Галіны, Сяргей Навумчык па тэлефоне тэрмінова звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, каб атрымаць магчымасць разам з жонкай і дачкой развітацца з нябожчыкам. Дзяжурны па МЗС ветліва параіў яму скласці пісьмовую заяву. Сяргей так і зрабіў, але не атрымаў ніякага, нават фармальнага, адказу. Фактычна можна лічыць, што Навумчыкам адмовілі.

Наўрад ці гэтае пытанне вырашалася на ўзроўні Міністэрства замежных спраў. Відаць, сумная нагода была выкарыстана адной добра вядомай асобай, каб яшчэ раз адпомсціць сям'і Навумчыкаў, зрабіўшы боль ад страты блізкага яшчэ мацней.

— Ёсць надзейныя звесткі, што пытанне разглядалася на самым высокім ўзроўні. Мабыць, на іншы вынік не варта было разлічваць, — зазначае Сяргей Навумчык. — За 8 гадоў эміграцыі, а працей — за 10 гадоў існавання гэтай улады я ў іх нічога ніколі не прасіў, вось папрасіў першы раз і, спадзяюся, апошні. Ясна, гэта не тыя людзі, якія будуць у сваіх рашэннях кіравацца мараллю.

Акрамя ўсяго іншага ў гэтай гісторыі ўлада яшчэ раз засведчыла сваю дробнасць. Сваю бязлітаснасць да тых, каго лічыць "ворагамі народа", яна гатовая дэманстраваць у любы момант, нават падчас жалобы. Цікава, што адначасова дэкларуецца прыхільнасць да еўрапейскіх каштоўнасцяў і нават абмяркоўваецца магчымасць адмены пакарання смерцю. Атрымліваецца, што забойцы могуць разлічваць на гуманнае стаўленне да сябе цяперашніх кіраўнікоў краіны, а палітычныя апаненты — не.

**СЛЫШАЛИ?**

# Америка посылает Лукашенко сигнал

**Александр Григорьевич и члены его правительства, другие высокопоставленные чиновники Беларуси, а также члены их семей могут попасть в черный список Госдепартамента США. В Конгрессе надеются также, что Америка поможет в расследовании как финансовых схем и личных счетов высокопоставленных лиц Беларуси за границей, так и по фактам исчезновения людей в Минске.**

Против белорусского "батьки" ополчились политические тяжеловесы Америки. В США готовится специальный законопроект, который предусматривает политические и экономические санкции в отношении Минска. Если документ будет принят, Александр Лукашенко и ключевые чиновники его Администрации попадут в "черный список" американского Госдепартамента.

Капитолийский холм посылает серьезный сигнал Александру Лукашенко. Это политическое лето может стать для него очень жарким. Демократия в Беларуси становится одним из приоритетов американского Конгресса. Здесь говорят о конкретных политических и экономических санкциях против Минска.

Конгрессмен Кристофер Смит — сторожил Капитолия. В палате представителей он уже 24 года и считается здесь политическим тяжеловесом. Конгрессмен известен в Вашингтоне как непримиримый борец с диктаторами во всем мире. В его списке — Румыния, Вьетнам, Китай, Судан и Куба. Более двух лет Кристофер Смит пробивал специальный закон, который даст возможность официальному Вашингтону вести более жесткую политику по отношению к режиму Лукашенко. И вот теперь "белорусское дело" в Конгрессе США выходит на финишную прямую. Законопроект называется ***"О демократии в Беларуси — 2004"***. Он уже одобрен международными комитетами обеих палат и в ближайшее время должен пройти голосование.

*"Поведение Лукашенко, когда закрываются газеты в Беларуси, арестовываются или привлекаются к суду лидеры оппозиции, не дают регистрироваться кандидатам на выборы, это все как бы накапливает некий отрицательный заряд, и мы видим уже достаточно резкую реакцию Конгресса",* — говорит старший эксперт фонда "Наследие" политолог Ариэль Коэн.

Еще в 2001 году президент Буш назвал Александра Лукашенко последним диктатором в Европе. В Конгрессе же составили длинный перечень претензий к официальному Минску. В первую очередь — похищение политических оппонентов и незаконная торговля оружием со странами-изгоями, разгон оппозиции и независимых СМИ. Как только документ будет окончательно принят, Александр Лукашенко и члены его правительства, высокопоставленные чиновники Беларуси, а также члены их семей попадут в *черный список* Госдепартамента.

*"Им нельзя будет въезжать в США, их семьям не будут давать визы. Ассигнуется 40 миллионов долларов на поддержку демократического движения в Беларуси, на радиовещание, на поддержку неправительственных организаций, так что это сильный сигнал",* — объясняет Коэн.

И это не только отказ в американских визах. В Конгрессе надеются, что США поможет в расследовании как финансовых схем и личных счетов руководства Беларуси за границей, так и по фактам исчезновения людей в Минске.

"Ключевым в этом по украинской модели будет появление свидетелей, которые, может быть, в обмен на неприкосновенность, на сделку с прокурором, дадут показания, кто приказал, когда приказал, где трупы похоронены, кто убивал", — уточняет Ариэль Коэн.

В отношении Минска могут быть введены конкретные экономические санкции. В первую очередь, запрет на торговлю компьютерами, высокоточными технологиями и стратегическими товарами из США.

**Елена СОКОЛОВА.**
*"РТР".*

**САЛІДАРНАСЦЬ**

# У палоне

*"Народная воля" ўжо паведамляла пра затрымку на пасту ДАІ Іўеўскага раёна тыражу чарговага нумара газеты "Дзень", якую выдаюць у асноўным журналісты былой газеты "Пагоня".*

*Прайшло некалькі дзён, а газету так і не ўдалося вырваць з палону. Учора ў 14 гадзін мы звязаліся з Міколам Маркевічам і пачулі:*

*— Яшчэ ў мінулы чацвер мы звярнуліся з заявамі на імя пракурора Іўеўскага раёна Іосіфа Ляонкі, начальніка мясцовай міліцыі Віктара Супрэна, пракурора Гродзенскай вобласці Васіля Ліцвінава і начальніка абласной міліцыі Анатоля Белашэўскага. Глуха, як у танку. Ні слова, ні паўслова. Калі сёння не ўдасца вырваць газету з кіпцюроў тых, хто незаконна яе арыштаваў, будзем дзейнічаць больш рашуча...*

*Каму не вядома: сёння газету не распаўсюдзіш — заўтра губляецца яе актуальнасць. А тут ужо амаль тыдзень тыраж у палоне. Журналісты "Дня" лічаць, што такім чынам з імі зводзіць рахунак абласны Камітэт дзяржбяспекі. Напярэдадні супраць рэдакцыі і газеты была задумана правакацыя, але яна не ўдалася — на месцы маючага адбыцца злачынства аказаліся супрацоўнікі рэдакцыі і "павязалі" няпрошаных візіцёраў.*

*Кэдэбісты ўсяляк адбіваюцца ад прэтэнзій журналістаў. Як быццам у баку яны стаяць і ад арышту тыражу чарговага нумара газеты "Дзень". Але... Кажуць, што затрымалі ў Іўі аддрукаваную газету менавіта з-за таго, што на яе старонках змешчаны матэрыял, які адлюстроўвае канфлікт газеты са спецструктурай.*

*Карэспандэнцыі "Галадалі? Цяпер плаціце!" і "На гродненских "наехали", з якімі мы сёння знаёмім чытачоў "Народнай волі", змешчаны на старонках газеты "Дзень", якая вось ужо некалькі дзён знаходзіцца ў палоне.*

## Галадалі? Цяпер плаціце!

**Рашэнне на карысць падатковай інспекцыі прыняў Абласны гаспадарчы суд па іску ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча. Згодна з рашэннем, Аўтуховіч мусіць заплаціць 267 мільёнаў рублёў фінансавых санкцый, што аўтаматычна ліквідуе ягоны бізнес. Прадпрымальнік мае намер абскарджваць гэтае рашэнне.**

Калегія з трох суддзяў Абласнога гаспадарчага суда вынесла рашэнне, што санкцыі ў 267 мільёнаў, вынесеныя абласной падатковай інспекцыяй да прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча, — справядлівыя. Сам Аўтуховіч лічыць рашэнне суда незаконным і рыхтуе касацыйную скаргу. Падставай для касацыі стануць працэсуальныя парушэнні, што дапусцілі суддзі: яны не далі Аўтуховічу права выступлення ў спрэчках. Гэта яны патлумачылі тым, што ён, хаця і прысутнічаў у зале суда і слухаў выступы іншых бакоў працэсу, "прапусціў сваю чаргу". Аўтуховіч лічыць, што такія паводзіны суддзяў падчас працэсу і прынятае рашэнне сведчаць пра прадвызначанасць выраку.

— Фактычна сваім рашэннем суд паспрабаваў падвесці прававую базу пад аргументы падатковай інспекцыі, — гаворыць Аўтуховіч. — Калі падатковая інспекцыя раней не мела абгрунтавання сваіх прэтэнзіяў, дык гэта за яе зрабіў суд. Але нават у гэтым абгрунтаванні яны наўмысна блытаюць паняцці.

Нагадаем, што ў кастрычніку мінулага года Мікалай Аўтуховіч разам з трыццаццю сваімі работнікамі тры тыдні трымаў галадоўку пратэсту, пасля таго як падатковая інспекцыя вынесла рашэнне фінансавых санкцый і арыштавала 13 таксовак, што належалі Аўтуховічу. Толькі пасля дамовы, што падаткавікі здымуць арышт, Аўтуховіч і яго людзі спынілі галадоўку. Таксісты працягнулі працу, а Аўтуховіч пачаў працэс абскарджвання рашэння падатковай інспекцыі ў судах.

Цяпер Аўтуховіч з адвакатамі рыхтуе касацыйную скаргу на рашэнне Абласнога гаспадарчага суда. Але ў панядзелак канцылярыя гаспадарчага суда выдала яму нечытальную копію судовага рашэння, чым ледзьве не пазбавіла прадпрымальніка магчымасці надалей дамагацца справядлівасці. Такая копія аўтаматычна пазбавіла б Аўтуховіча магчымасці падаць касацыйную скаргу, бо нечытальныя дакументы судовымі ўстановамі не прымаюцца. Супрацоўніцы канцылярыі спасаліся на тое, што ў судзе зламаўся факс, і толькі пасля таго, як адвакат Мікалая Аўтуховіча прыгразіла паскардзіцца старшыні суда, яны выдалі якасную копію матывіровачнай часткі.

Парушэнне Аўтуховіча, паводле меркавання абласной падатковай інспекцыі, заключаецца ў тым, што таксісты не павінны былі здаваць яму выручку ў канцы дня. Аўтуховіч стаў ахвярай знакамітага прэзідэнцкага Дэкрэта № 4, згодна з якім прадпрымальнік не мае права мець больш за тры работнікі. У Аўтуховіча іх было каля 60 — кіроўцы і дыспетчары. Таму ў маі мінулага года Аўтуховіч амаль усіх звольніў і ўладкаваў у фірму "Ніка Транс", з якой потым заключыў адмысловую дамову, што гэтыя людзі будуць працаваць на ягоных машынах. Нацыянальны банк, заканадаўца ў сферы фінансавых разлікаў, выдаў тры заключэнні, паводле якіх гэтая схема Аўтуховіча — абсалютна законная. Але падатковая палічыла, што гэта — спосаб пазбегнуць выплаты падаткаў: кіроўцы мусілі здаваць выручку не Аўтуховічу, а ў фірму "Ніка Транс", дзе ляжалі іх працоўныя кніжкі, — у такім выпадку падаткі былі б у некалькі разоў большымі.

Тры тыдні таму ў Вышэйшым Гаспадарчым судзе аналагічны іск прайграла фірма "Ніка Транс", да якой абласная падатковая за тое самае парушэнне прымяніла санкцыі на суму 444 мільёны рублёў. Але праз некалькі дзён намеснік старшыні суда прыпыніў выкананне эканамічных санкцый у дачыненні да фірмы, пакуль не пройдзе ўвесь працэс абскарджвання.

**Ліза МАНЯК.**

## На гродненских «наехали»

8 апреля, после встречи с гродненцами **"5+"**, сотрудники ГАИ задержали личный автобус председателя областной организации ОГП Владимира Червоненко. После того как Червоненко отказался открыть салон, на место происшествия прибыли сотрудники ОБЭП, два экипажа ОМОНа и начальник Ленинского РОВД с заместителем. Туда же пришли участники встречи и минчане из **"5+"** — Шушкевич, Бухвостов, Козловский. В автобусе Червоненко были обнаружены 8 пачек листовок по 700 штук под заголовком "Пять шагов к лучшей жизни" и календари с символикой **"5+"**. Около трех часов на улице около Генерального консульства Республики Польша продолжалось составление протокола осмотра транспортного средства, после чего Владимир был приглашен на утро на беседу в РОВД. Но председатель областной партийной структуры заявил, что в милицию пойдет только по повестке.

Примерно в это же время на посту ГАИ в Ивье был изъят тираж гродненской газеты "День", перевозимой из смоленской типографии, где вынужденно печатается независимое издание редактора Николая Маркевича. Примерно в 20.30 частную машину Михаила Белакоза с 11-ым выпуском "Дня" остановили сотрудники ГАИ и вызвали на помощь опергруппу, которая усомнилась в подлинности сопроводительных документов. PRIVATE После составления протокола осмотра автомобиля оперативники забрали весь тираж, накладные и доверенность на перевозку. Через час Белакоза отпустили, не выдав при этом никаких документов об изъятии.

Неделю назад на этом посту также останавливали машину с 10-ым выпуском газеты "День" для проверки документов на груз. Тогда сотрудники ОБЭП не предъявили претензий к таким же накладным.

Волковысской редакции "Местной газеты" вынесено предупреждение за несоответствие ГОСТу выходных данных. Кроме того, несмотря на то, что в регистрационном свидетельстве отмечена территория распространения — вся Беларусь, Министерство информации указало редактору Шентеровичу на необходимость письменного уведомления о выходе газеты не только в Волковыске, но и в Мостах, Сморгони, Зельве и Свислочи, а также об изменении периодичности выхода — с двух до трех раз в неделю. После второго предупреждения независимые газеты в Беларуси закрывают, причем закрытие никоим образом не грозит изданиям государственным.

Главный редактор гродненской независимой газеты "Биржа информации" Елена Равбецкая предупреждена прокуратурой Ленинского района о нарушении статьи 5 Закона о печати, которая запрещает распространение призывов от имени незарегистрированных организаций. Один из материалов "БИ" подписан автором Истоминым, указавшим свой социально-общественный статус — председатель Гродненской городской организации ОГП. Редактор Равбецкая намерена обжаловать предупреждение прокуратуры в суде, так как ОГП прошла государственную перерегистрацию, а ее структурное подразделение, согласно Закону о политических партиях, подлежит не регистрации, а учету.

**Наталья МАКУШИНА.**

**ЗЕРКАЛО**

# Не оскудеет карман берущего

По мнению многих политиков и экономистов, коррупция является одной из самых серьезных проблем переходных обществ, к которым относится и белорусское. Впрочем, наиболее остро значимость этой социальной болезни ощущают в первую очередь рядовые граждане этих стран, например, одним из главных народных требований и главных обещаний оппозиции в ходе недавней грузинской "революции роз" было как раз искоренение невероятного мздоимства власть имущих. И началом восхождения к вершинам власти А. Лукашенко был его знаменитый "антикоррупционный доклад".

Согласно оценкам международных экспертов, коррупция в сегодняшней Беларуси на фоне многих других стран выглядит не такой уж ужасающей. А как ее оценивают сами белорусы?

**Таблица 1. Распределение ответов на вопрос "В течение последних пяти лет приходилось ли Вам (или Вашим знакомым) для того, чтобы положительно решить важный вопрос, давать деньги, ценные подарки или оказывать услуги?"** *(Возможно более одного ответа)*

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Не приходилось | 47,0 |
| Работникам сферы здравоохранения | 30,5 |
| Государственным чиновникам | 17,7 |
| Работникам правоохранительных органов | 15,3 |
| Работникам сферы образования | 13,3 |
| Работникам негосударственной сферы | 5,3 |
| Работникам сферы торговли | 3,7 |
| Другим | 0,5 |

Согласно данным табл. 1, белорусы и ныне знают о коррупции не понаслышке. Только меньше половины опрошенных с необходимостью "давать на лапу" никогда не сталкивались, да и среди них, возможно, не все были искренни, давая такой ответ. Впрочем, не все каналы "давания", перечисленные в табл. 1, можно отнести к коррупции в строгом смысле. Бесплатная медицина (наследие советских времен) давно уже де-факто перестала быть бесплатной, и в данном случае речь идет об экономических отношениях, которые пробивают себе дорогу через мертвые юридические формы, об обязательствах, которые не может выполнить никакое некоммунистическое государство. Но и показатели коррупции в узком смысле — подношения чиновникам и работникам правоохранительных органов — достаточно велики.

Однако едва ли не более интересно то, как оценивают люди нынешний уровень коррупции по сравнению с временем, когда депутат Верховного Совета А. Лукашенко только сочинял свой пронзительный "антикоррупционный доклад". 34,1% опрошенных ответили, что теперь платить приходится больше, чем тогда, 18,3% — что столько же, и только примерно каждый сотый опрошенный (1,1%) отметил прогресс. Иными словами, результаты многолетней антикоррупционной борьбы, многочисленных чисток, публичных "порок" и посадок чиновников белорусы оценивают, мягко говоря, сдержанно. При этом вряд ли кто-либо из опрошенных, считающий, что коррупция отступила, утаил это мнение от социологов, скорее часть респондентов предпочла не оглашать противоположное мнение.

Почему же пессимистичные оценки результатов борьбы не выливаются в разочарование во власти в целом, власти, которая обещала эту "гидру" обезглавить? Отчасти ответ на этот вопрос содержится в табл. 2.

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос "Что, на Ваш взгляд, нужно сделать, чтобы уменьшить коррупцию в нашем обществе?"** *(Открытый вопрос, возможно более одного ответа)*

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Ужесточить контроль и повысить ответственность чиновник ов | 42,7 |
| Реформировать государственный аппарат | 18,5 |
| Повысить зарплату чиновникам | 17,1 |
| Улучшить воспитание чиновников | 7,2 |
| Ничто не поможет | 6,8 |
| Навести порядок в экономике | 3,6 |
| Иное | 6,8 |

Как видим, самым популярным народным рецептом искоренения мздоимства остается контроль. Скажем, тех, кто видит спасение в реформе госаппарата, вдвое меньше, чем тех, кто отдает предпочтение методу более традиционному. Но белорусскую власть как раз труднее всего упрекнуть в отсутствии стремления контролировать все и вся. То есть власть делает (или имитирует) именно то, что, по мнению почти половины опрошенных, и следует делать, чтобы победить коррупцию.

Судя по всему, коррупционные скандалы последних месяцев также не слишком повлияли на отношение опрошенных к власти: тот, кто доверял ей, и сейчас полагает, что коррупционеры злоупотребляли доверием главы государства, а тот, кто раньше относился к власти неприязненно, не изменил своего отношения после очередных арестов. Так, 35,3% респондентов по поводу арестов управляющей делами президента Беларуси Г. Журавковой и председателя Национальной государственной телерадиокомпании Е. Рыбакова присоединились к мнению, что президент сам назначает на высокие должности нечестных людей, а 42,4% поддержали предположение, что эти чиновники обманули главу государства.

Во всех перечисленных выше вопросах респонденту неявно предписывалась роль внешняя по отношению к аппарату власти, он в той или иной форме оценивал степень коррумпированности чиновников с точки зрения "дающего". А если, пусть даже гипотетически, поменяться ролями? В ходе исследования задавался вопрос: "Если бы Вы стали большим начальником, стали бы Вы использовать свое служебное положение в личных целях?" Почти половина (49%) дали отрицательный ответ, однако ровно треть (33,3%) ответили "да".

Не исключено, что кое-кто из последней группы, отвечая на этот вопрос, решил просто пошутить, бравируя своим цинизмом. С другой стороны, возможно, и не все среди давших противоположный ответ, сообщили о своих истинных намерениях.

Можно предположить, что и Г. Журавкова, и Е. Рыбаков при утверждении на должность уверяли (и не в анонимной анкете, а в многократных беседах с главой государства), что не будут путать казну и собственный карман. Но в любом случае каждый третий опрошенный, открыто сообщивший, что, заняв начальственное кресло, своего не упустил бы, — показатель довольно внушительный. Так что проблема, возможно, не только в "них" (нынешнее начальство в Беларусь не с Марса и даже не из Москвы прислали), но и в "нас".

**Независимый институт социально-экономических и политических исследований.**

